*Падрабязнасці пра будучы помнік «дарагому і любімаму» (стар. 2)*
*Орша: капітан міліцыі забіты, восем чалавек паранена (стар. 4)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец "Газэта СВАБОДА, Ltd."
Наклад 45.000
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская,56
Тэл./факс 362441

19 сакавіка 1996 г. | № 20 | Кошт свабодны

ГАЛОЎНАЯ ТЭМА

## Асудзілі ўсе, акрамя Лукашэнкі

### *Імперскі гнайнік, які нарываў у Дзяржаўнай Думе Расіі на працягу некалькіх гадоў, ускрыўся*

У прынцыпе, здарылася тое, што павінна было здарыцца: тры папярэднія галасаванні ў мінулай Дзярждуме не далі станоўчага выніку, але на гэты раз камуністам "пашчасціла". Увесь свет пабачыў, чаго вартая размова пра трансфармацыю камуністаў у сацыял-дэмакратаў.

Але найпершае значэнне думскае рашэнне відавочна мае не столькі для Захаду, колькі для краінаў СНД, чые лідэры вельмі актыўна каментавалі факт дэнансацыі Белавежскіх пагадненняў. Каментарыі амаль усіх прэзідэнтаў зводзіліся да таго, што рашэнне Думы не мае юрыдычных наступстваў, але танальнасць каментарыяў гаворыць сама за сябе. Прэзідэнт Украіны Леанід Кучма, як і чакалася, не толькі не падтрымаў дэнансацыю, але і паставіў разумнае пытанне: калі Расія абвяшчае сябе СССР, то ў што ператвараецца СНД. Падкрэсліўшы, што Украіна не саступіць са шляху незалежнасці, Кучма недвухсэнсоўна даў зразумець, што дыстанцыя паміж Расіяй і Украінай будзе павялічвацца. Менш катэгарычнай была рэакцыя прэзідэнтаў Закаўкаскіх краінаў, але і там прасочвалася пэўная насцярожанасць. Прэзідэнт Грузіі Эдуард Шэварнадзэ адзначыў, што Грузія не вітае дэнансацыю Белавежскіх пагадненняў і не збіраецца ўваходзіць ні ў якія саюзы.

Даволі цікавай выглядае рэакцыя прэзідэнта Казахстана Нурсултана Назарбаева. Ён прыняў асобны зварот да грамадскасці, дзе не толькі не падтрымаў рашэння Дзярждумы, але ўсяляк асудзіў яго. Дарэчы, пазіцыя Назарбаева па гэтым пытанні даволі паслядоўная, бо яшчэ на апошнім саміце кіраўнікоў краін СНД Назарбаеў выступіў з аналагічнай заявай, у якой асудзіў захады па аднаўленні СССР. А менавіта гэтае пытанне выклікала даволі вялікую спрэчку паміж прэзідэнтам Беларусі і прэзідэнтам Казахстана.

Дэнансацыя Дзяржаўнай Думай Расіі Белавежскіх пагадненняў унесла значную блытаніну ў раскладку сілаў не толькі ў Расіі, але і ў Беларусі. Рэакцыя Ельцына была даволі прадказальнай. І, дарэчы, ён паставіў пытанне аб тым, што зараз уяўляе з сябе Дума, бо пры СССР такі орган не існаваў. Вядома, што перадвыбарчая кампанія Ельцына шмат у чым грунтавалася на інтэграцыйных захадах, перш за ўсё з Беларусяй. Рашэнне ж Думы нібыта перахоплівае інтэграцыйную ініцыятыву ад Ельцына. Таму, напэўна, найпершае значэнне для Крамля мела рэакцыя прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі. А яна была, напэўна, самай нечаканай. Лукашэнка ў інтэрв'ю карэспандэнту ОРТ фактычна падтрымаў рашэнне Дзярждумы, заявіўшы, што мінулы Саюз утварыць ужо нельга, але трэба імкнуцца да стварэння новага, "тым больш, калі ў прэзідэнтаў ёсць такая грунтоўная апора як парламент".

Каментарыі Лукашэнкі ўнеслі блытаніну, бо цяпер Ельцын бачыць, што Лукашэнка апіраецца не на тыя сілы, на якія апіраецца Ельцын, а на камуністычную апазіцыю. А значыць, у Лукашэнку нельга бачыць надзейнага партнёра. Разумее гэта і Лукашэнка, які праз дзень пачаў рабіць новыя каментарыі, якія фактычна перакрэслівалі раней сказанае. Трэба думаць, што далейшае развіццё падзеяў на глебе стварэння канфедэрацыі будзе шмат у чым залежаць ад Ельцына. Калі Ельцын пажадае дараваць Лукашэнку ягоную заяву, то, хутчэй за ўсё, інтэграцыйныя захады будуць прадоўжаны, але не выключаны і іншы варыянт.

**Андрэй КАРЭНІЧ**

## Шушкевіч лічыць, што трэба клікаць лекара

Свае адносіны да магчымай дэнансацыі Белавежскіх пагадненняў беларускія камуністы выказалі яшчэ 14 сакавіка, за дзень да прыняцця скандальнага рашэння расійскай Думай.

"У гонар" гадавіны саюзнага рэферэндуму (17 сакавіка 1991 года) ПКБ прыняла заяву, у якой выказала намер "зрабіць усё ад яе залежнае дзеля аднаўлення на добраахвотнай і ўзаемавыгаднай падставе абноўленай саюзнай дзяржавы". Ужо тады камуністы заявілі, што лічаць неабходным разгледзець на сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь пытанне аб прызнанні Белавежскіх пагадненняў "палітычна памылковымі і злачыннымі", звярнуцца да народаў з прапановай пачаць перамовы па пошуку "аптымальнай мадэлі" новай саюзнай дзяржавы і падтрымаць інтэграцыйныя намаганні Аляксандра Лукашэнкі. Відавочна, што свае дзеянні па аднаўленні СССР беларускія камуністы скаардынавалі са сваімі расійскімі таварышамі.

Адзін з тых, чые дзеянні камуністы хочуць прызнаць "злачыннымі", **Станіслаў Шушкевіч**, каментуючы ў інтэрв'ю СВАБОДЗЕ прынятае Думай рашэнне, адразу ж падкрэсліў, што яно не мае ніякіх юрыдычных наступстваў. Шушкевіч лічыць, што гэта з'яўляецца чыста перадвыбарчым ходам, які расійскія і беларускія камуністы зрабілі ўзгоднена. Стваральнік СНД падкрэсліў, што камуністам патрэбныя супрацьстаянне і гвалт. "Рашэнне аб дэнансацыі Белавежскіх пагадненняў маглі прыняць толькі тыя людзі, якія гэтых пагадненняў не чыталі, — зазначыў былы спікер. — Каб яны прачыталі гэтыя дакументы, то ўбачылі б, што ў іх запісана якраз тое, чаго яны нібыта дабіваюцца."

Шушкевіч не выключае, што ў Вярхоўным Савеце РБ будзе пастаўлена такое ж пытанне. Але, па яго перакананні, "хаця крыкуноў хапае і ў нас, здаровы сэнс, мяркую, пераможа". Гаворачы аб тых людзях, якія пагражаюць пакараць ініцыятараў Белавежскіх пагадненняў, Шушкевіч заявіў: "Юродзівым патрэбны лекар, а не палітычная дзейнасць. Баяцца няхай тыя, хто парушае закон".

Прадстаўнікі Канстытуцыйнага суда РБ катэгарычна адмовіліся якім-небудзь чынам пракаментаваць прынятую Думай пастанову. "Гэта чыста палітычнае рашэнне, таму мы не маем права даваць ніякіх каментарыяў", — падкрэсліў намеснік старшыні КС **Валерый Фадзееў**. Нават калі Вярхоўны Савет Беларусі пажадае прыняць аналагічнае рашэнне, Канстытуцыйны суд нашай краіны не мае права ніякім чынам паўплываць на гэтыя намеры. Паводле заканадаўства, КС Беларусі не ажыццяўляе прэвентыўны (папярэдні) кантроль, а правярае заканадаўства толькі пасля яго прыняцця.

Старшыня Вярхоўнага Савета **Сямён Шарэцкі** на працягу гэтых дзён таксама адмаўляўся даваць якія-небудзь каментарыі па пастанове расійскай Думы. Прыкладна тое ж самае гаварыў журналістам намеснік кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта **Аляксандр Абрамовіч**, спасылаючыся на адсутнасць "адпаведных папер". Аднак у панядзелак, у першай палове дня, адбылася сустрэча ў адміністрацыі прэзідэнта паміж Аляксандрам Лукашэнкам і кіраўніцтвам парламента ў поўным складзе: старшыня, намеснікі і члены прэзідыума, на якой, відавочна, вызначалася "лінія паводзін" беларускіх улад да скандальнага рашэння расійскай Думы.

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

## «Такая палітыка вартая жалю»

### *Кіраўніцтва БНФ прыняло заяву з нагоды рашэння Дзяржаўнай Думы Расійскай Федэрацыі*

У панядзелак 18 сакавіка ў штаб-кватэры БНФ прайшла прэс-канферэнцыя, на якой журналістаў азнаёмілі з тэкстам двух дакументаў, прынятых кіраўніцтвам Фронту. У заяве, падпісанай Зянонам Пазьняком і Лявонам Баршчэўскім, адзначана, што пастанову Дзяржаўнай Думы аб дэнансацыі Белавежскіх пагадненняў "можна было б вітаць, паколькі яна сведчыць аб радыкальным выхадзе Расіі з СНД..." Але, як сцвярджаецца ў заяве, на жаль, гэты крок прадыктаваны іншымі мэтамі — "жаданнем аднавіць Савецкі Саюз". Гэта гаворыць, па-першае, пра "адсутнасць рэальнага бачання жыцця" ў дэпутатаў Думы і, па-другое, "пра даволі цьмянае разуменне імі юрыдычных вынікаў свайго рашэння".

"Вартая жалю такая палітыка", — канстатуюць аўтары заявы, адзначаючы, што яе ініцыятарамі ў Расіі і ва ўсёй СНД з'яўляюцца камуністы. "На авантурную ініцыятыву Ельцына і Лукашэнкі аб канфедэрацыі Расіі з Беларусяй камуністы адказалі яшчэ большай авантурай — вярнуць СССР".

Кіраўніцтва Фронту звярнулася да ўсіх незалежных і дэмакратычных сілаў Беларусі з заклікам мацаваць суверэнітэт Беларусі, законнасць і дэмакратыю, "не дазволіць аўтарытарнаму, пракамуністычнаму, прарасійскаму рэжыму А.Лукашэнкі разбурыць асновы нашай дзяржаўнасці, Канстытуцыі, права і незалежнасці".

Зянон Пазьняк падпісаў таксама зварот да прэзідэнта, урада і Дзяржаўнай Думы Расійскай Федэрацыі. Назваўшы скандальнае рашэнне расійскай Думы "небяспечнымі гульнямі", кіраўнік БНФ заявіў: "Толькі людзі, адарваныя ад жыцця, могуць меркаваць, што Расія будзе вызначаць лёс нацыянальнай дзяржаўнасці Беларусі. Гэта памылка можа мець для такіх палітыкаў нашмат больш разбуральныя наступствы, чымсьці іхняя палітыка ў Чачні".

"Мы гатовыя, чаго б гэта не было варта, абараняць нашы дзяржаўныя інтарэсы, аднак спадзяемся, што ў Расіі дастаткова разважлівых палітыкаў, якія не дапусцяць ускладненняў і будуць будаваць добрасуседскія адносіны з Беларусяй як з суверэнным і роўным партнёрам", — заявіў Зянон Пазьняк.

**Алесь ГАНКОВІЧ**



**15 сакавіка ў Мінску прайшоў мітынг, арганізаваны кааліцыяй дэмакратычных партыяў. На пляцы каля Опернага тэатра сабралася больш за тры тысячы чалавек. За будынкам тэатра дзяжурыла каля дзесяці грузавікоў з салдатамі ўнутраных войскаў. Але ўдзельнікам мітынгу, які праходзіў пад бел-чырвона-белымі сцягамі, міліцыя не перашкаджала.**





## Няўлоўны «Мірон»

**15 сакавіка ў Лёзна зноў (як гэта было ўжо 27 ліпеня, у Дзень незалежнасці) залунаў бел-чырвона-белы сцяг на 40-метровай трубе райбыткамбіната.**

Так адзначыў свята беларускай Канстытуцыі невядомы смяльчак, які ўначы залез на самую высокую ў Лёзна кропку. Да сцяга быў прымацаваны аркуш паперы са словамі:

*"Калі ты беларус, падыміся з калень. Досыць ганьбіць сябе перад памяццю продкаў! Калі ты беларус — вярні памяць сваю, Вярні сцяг свой, "Пагоню" і мову! Жыве Беларусь!".*
***І подпіс:** "Мірон".*

Пасля леташняга выпадку лёзненская міліцыя, як вядома, узбудзіла крымінальную справу, пошукамі "Мірона" займаліся супрацоўнікі КДБ. Аднак нікога знайсці не ўдалося, і справу закрылі. На гэты раз крымінальную справу вырашылі не заводзіць, бо, як сказаў начальнік Лёзненскага РАУС Міхаіл Пятроўскі, "гэта не крымінал, а палітычная акцыя".

**Анатоль БУКАЧОЎ**
**Барыс ХОЛАД**

Владимир ПОДГОЛ

# Скажи мне, кто твой враг, и я скажу – все ли у тебя дома...

*Враги бывают разные —*
*Белые и красные,*
*Смертельные, заклятые*
*И... на кресте распятые*

Политическая деятельность очень похожа на спектакли или многосерийные фильмы, в которых политики играют роли Героев и Врагов, Победителей и Жертв, Хозяев жизни и Слуг... Телевидение позволило нам практически непрерывно следить за лихо закрученными сюжетами и их главными героями — политиками.

В последние годы эти спектакли в основном играются для нас, чтобы во время выборов и референдумов мы тоже сыграли свою роль, участвуя в "волеизъявлении народа". Делая выбор, мы не только выбираем политических актеров для новых спектаклей, но и решаем свою судьбу. И чтобы правильно выбрать, надо суметь разглядеть за ролями, которые играют политики, их настоящее лицо. Сделать это порой очень сложно, ибо политические спектакли и фильмы ставятся не так, как обычные, а по своим сценариям. При этом одни режиссеры учитывают юридические законы и мораль, другие — не учитывают и руководствуются исключительно законами джунглей.

## Терминатор

С 1993 года неизменным победителем политических сценариев в Беларуси выходит А.Г.Лукашенко. Он уже **четвертый год** (!) создает образы врагов на телеэкране и громит их (а за пределами "телека" с его врагами разделываются подручные). Посредством телеканала Александр Григорьевич буквально вошел в каждый дом. Завоевав сердца жильцов общежитий, "хрущевок" и сельских хат, он ворвался в большую политику, став хозяином в стране. Всю Беларусь он превратил в съемочную площадку: предприятия запустил настолько, что они стали естественными декорациями, а безработные рабочие — статистами на политической сцене. Остальным же гражданам пришлось "работать" просто телезрителями.

Одни боготворят его за гениальную игру, у других дергаются указательные пальцы. Последним следует помнить: не стреляйте в пианиста, он играет так, **как никто не умеет!** В чем же уникальность Лукашенко? За счет чего он завоевывает симпатии политзрителей?

## Крестный отец

Ожесточенную схватку со своими первыми публичными врагами и их морально-политический отстрел Лукашенко продемонстрировал 16 января 1993 года на трибуне Верховного Совета, озвучив свой антикоррупционный доклад, который можно считать классикой политического кино. Директор совхоза "Городец" весьма искусно нагнетал страсти: *"Основное чувство, которое я испытываю: все мы становимся заложниками какой-то чудовищной, безнравственной и беспринципной системы манипулирования и обмана людей. Системы, в которой все продается и покупается, где правят бал корысть, чистоган, жажда наживы и рвачества... Со святой наивностью мы полагали, что это величайшее зло не расползется по Беларуси... Надо всесторонне и глубоко оценить эту опасную тенденцию... Просто мурашки бегут по спине, когда задумаешься, насколько мы погрязли и лезем глубже в это дерьмо!"*



Отважный борец назвал, наконец, "крестного отца" коррупции — Шушкевича. При этом, правда, намекнул и на Кебича (очень осторожно). Но в коррупционном плане поставил его рангом ниже Шушкевича, несмотря на то, что все коррупционеры в докладе были из Совмина. В докладе были названы еще два очень перспективных врага: Богданкевич и Мясникович.

В конце своего телешоу Лукашенко очень серьезным, гневным голосом нарисовал картину, в которой добродушный толстяк Шушкевич предстал клептоманом, т.е. человеком, болезнь которого заключается в стремлении воровать все, что угодно. Телезрители ухахатывались, представляя, как "крестный отец" белорусской коррупции прет домой из ВС то ящик гвоздей, то мешок цемента, а по вечерам надгробный камень кантует!

## Спрут

А первый антикоррупционный сценарий начала писать оппозиция (в самом начале своего восхождения на политическую сцену). Начали здорово. Сценарий фильма увидел свет сразу во всем СССР. Его опубликовал депутат С.Антончик в "Аргументах и фактах" и представил всей стране анатомию коррупции белорусской компартийной номенклатуры. А вскоре творческий коллектив в составе С.Антончика, И.Герасюка и режисера-оператора Хацеватского создал настоящий фильм о госпарткоррупции. Съемки проходили при сильном противодействии. За депутатами следили, не раз пытались задержать, изъять пленку, угрожали расправой. Премьера фильма состоялась прямо в зале заседаний ВС. Возле трибуны поставили телевизор, видеомагнитофон и... некоторые выбежали из зала. Дементей, например, поглядывал на экран из-за двери. Эти "кое-кто", по-видимому, боялись, что после просмотра фильма их выведут из зала в наручниках. Однако большинство зрителей-депутатов и одновременно героев фильма лишь самодовольно ухмылялись. Просмотр был первым и последним. Фильм "арестовали" и положили на полку. Так зрители Беларуси и не увидели в настоящем "деле" тех, за кого голосовали на выборах, всяких там Таразини.

Представьте себе такие кадры. Один из лидеров КПБ сидит в кресле на берегу озера с удочкой в руках. Рядом пожилой человек надевает на крючок червя... Кресловладелец забрасывает удочку, подсекает, рыбка летит в траву. Довольное бормотание. А пожилой человек бросается к рыбке, снимает ее с крючка и вновь надевает червяка... В кадре крупным планом показано лицо старика, текут слезы...

Оппозиция копала все глубже, накапливала материалов все больше, но к широкому телеэкрану их так и не подпустили. Руководство БНФ могло развернуть весь фронт против коррупционеров и "приватизаторов", мобилизовать людей, как во время акции "Чарнобыльскі шлях". Простые граждане в городах и городках знали местных "хозяев жизни", ненавидели их и ждали, кто же выйдет на битву с ними (хотя бы моральную). Но Фронт не использовал этот шанс.

## Робин Гуд

История давала шанс и Шушкевичу. Когда началась "прихватизация", он стал сотрудничать с депутатами на местах, которые боролись с коррупцией. Им люди Кебича оказали мощнейшее сопротивление. И тогда Шушкевич лично возглавил расследования. Началась невидимая война. И в КГБ, и в МВД одни играли на стороне Шушкевича, другие — против. Доходило до того, что Шушкевич по одному и тому же факту заставлял руководство МВД проводить проверку до семи раз(!).

В конце концов по требованию Шушкевича была создана комиссия по расследованию коррупции в Борисове, а также выявлению связей, которые вели в высшие эшелоны власти. В нее вошли специалисты из всех министерств и ведомств, включая силовые структуры и Контрольную палату. С комиссией работали десять депутатов местного совета. По письму жителей приехал в город и сам спикер. Вот кадры из неснятого фильма, которые видели лишь сопровождающие Шушкевича. *Шушкевич переступает порог полуразвалившегося барака и проваливается под пол (сломались прогнившие доски). Из-под потолка, сидя на обгоревшей проводке, на ошеломленного спикера спокойно глядит огромная крыса, лениво помахивая хвостом. Старушка рассказывает: "Живу здесь лет сорок и все время стою в очереди на квартиру. Ночью через дырявый потолок видны звезды, замерзает в ведрах вода. Даже крысы не выдерживают и залезают в колыску к внучке, чтобы погреться. Пришла в исполком к начальнику о ремонте просить, а он говорит: "Пошла вон, карга старая, а если будешь жаловаться — сгниешь в этом бараке."*

У Шушкевича были все материалы для антикоррупционного доклада. Уровень аналитики доклада Шушкевича на несколько порядков превосходил доклад Лукашенко. Более того, после проверок Шушкевичу удалось добиться снятия с постов коррумпированных местных чиновников, на некоторых завели уголовные дела. Люди из бараков наконец получили квартиры (Лукашенко после своего антикоррупционного трындежа не мог и мечтать о таких результатах). Пришла пора ставить точку — наносить мощный удар по номенклатурной коррупции.



## Судный день

Когда соратники предложили Шушкевичу поставить на президиуме ВС вопрос о чтении своего доклада на сессии, он отказался (мол, они не пропустят). Рассматривался и вариант неожиданного выступления на сессии (после провала вопроса на президиуме) с предварительной подготовкой радио и телетрансляции. Шушкевич так и не решился повоевать. Более того, некоторых людей, которые готовили тогда ему материалы, начали судить в Верховном суде "за оскорбление чести и достоинства" — за то, что в письме Шушкевичу они назвали коррупционеров коррупционерами. Шушкевич был вызван в суд повесткой в качестве свидетеля и одним словом мог защитить преданных ему сотрудников. Но он не явился. Людей осудили, а на следующий день (4 августа 1993 г.) вступил в силу закон о коррупции...

А ведь выступи Шушкевич в суде в качестве свидетеля, объясни свое понимание коррупции, приведи свои факты и доказательства — вот тебе и антикоррупционое обвинительное выступление прямо из зала суда. Телетрансляция сего действа также могла изменить судьбу Беларуси и самого Шушкевича. Однако и этот сценарий остался нереализованным.

Перефразируя поговорку спортивных комментаторов, можно вывести для наших политиков одно правило: **не забиваешь ты — забивают тебя!** Из Робин Гуда, который защищал интересы простых людей от врагов-коррупционеров, Шушкевича превратили в крестного отца белорусской мафии.

## Рембо – первая кровь

Номенклатура поняла, что третьей попытки демократов ей не пережить и решила погасить антикоррупционный огонь одним испытанным способом. Иногда, если что-то горит и пламя движется, все пожирая на своем пути, разжигают встречный пожар и направляют его навстречу стихии. И пламя гаснет. Именно такой сценарий и разработали кебичисты с Лукашенко. Но не все точно рассчитали. Встречный пожар не только сбил пламя разгоравшейся борьбы демократических сил против беззакония и коррупции, но главный пожарник-поджигатель Лукашенко спалил и самих кебичистов. Огонь войны был его стихией. Запах политической крови возбуждал и будоражил его. Жалкий писк политических жертв доставлял ему садистское удовлетворение. А вид политических трупов успокаивал лишь на мгновение и тут же придавал энергию для поиска и создания новых врагов.

## Обыкновенный лукашизм

После теледоклада в Беларуси возникли новые социальные группы: лу-публика и лукашисты. Лу-публика не мыслила своей жизни без Лукашенко, абсолютно ему верила и даже была готова жертвовать ради него своей жизнью. Лукашисты — это та часть лу-публики, которая страстно жаждала, чтобы Лукашенко крушил, карал, сажал. Они с нетерпением ждали новых схваток и подвигов борца-богатыря, его героических побед, жертвенных страданий и получили многолетний многосерийный телефильм. Вся их жизнь с этого момента измерялась от телешоу до телешоу.

## Приключения шкловского ковбоя

В этом триллере лу-публика рыдала над единственным костюмом кумира, порванном о гвоздь антикоррупционной двери; билась в истерике от невозможности повесить над кроватью цветной портрет розовощекого красавца-усача, изготовленный в Германии и арестованный на таможне врагами-кебичистами. А после рокового лиозненского выстрела лу-публика была на грани инфаркта. Но потом с облегчением вздохнула, ибо ковбой не пострадал (если не считать дырки в титенковском "коне").

## Миледи

Она гениально сыграла положительный образ невинно оболганного Лукашенко. Миледи-стюардесса рассказала, что во время перелета из далекой страны в сумке у Саши нашли ее пропавшие вещи — то ли зонтик, то ли женский вибратор. Затем аэромиледи, с видом невинной монашки, пустила слезу об украденных леденцах, которые также нашлись среди вещей Лукашенко.

Взрыв негодования поклонников честного шкловца превзошел все ожидания сценаристов. "Кебичевская стерва! Продажная сука!" — оказались самыми мягкими выражениями, которые неслись с совковых диванов. Кое-кто в порыве страстной любви к Александру Григорьевичу и стремлении отомстить за оскорбление даже засадил по телеэкрану бутылкой. А когда затих звон разбитого стекла, успокоил шокированных домочадцев: "Ведь Сашка обещал в случае победы каждому и телевизор, и холодильник, и двухспальную кровать!"

*(Продолжение материала в следующем номере)*

# Капітан міліцыі забіты, восем чалавек паранена

**Такі трагічны вынік мела беспрэцэдэнтная для мірнай Беларусі сутычка паміж злачынцамі і міліцыяй на Аршанскім чыгуначным вакзале ў чацвер 14 сакавіка**

Падзеі адбываліся наступным чынам. У 19.20 спрацавала сігналізацыя ў багажным памяшканні вакзала, двое сяржантаў пайшлі праверыць, што здарылася. Праз хвіліну яны прывялі ў дзяжурку двух падазроных асобаў, якія ў адказ на патрабаванне паказаць дакументы пачалі страляніну з пісталетаў. Пачуўшы стрэлы, у дзяжурку кінуліся іншыя міліцыянты, і тады ім пад ногі паляцела граната. Пасля выбуху на падлозе засталіся ляжаць забіты капітан Дзям'янаў, шэсць параненых міліцыянтаў і яшчэ двое грамадзян. Злачынцы, скарыстаўшы неверагодную паніку, збеглі з вакзала.

Менш чым праз гадзіну іх выявілі: адзін хаваўся ў прыватным доме па вул.Санітарнай, другі таксама недалёка ўцёк — яго знайшлі на вуліцы Дзяржынскага. Пасля прапановы здацца і атрымання адмовы міліцыя выкарыстала аўтаматы і пайшла на штурм. Абодва злачынцы былі захопленыя, як сцвярджае міліцыя, цяжкапаранёнымі і ад ран памерлі ў шпіталі ноччу з чацвярга на пятніцу.

Як паведаміў СВАБОДЗЕ начальнік аддзела аршанскай транспартнай міліцыі падпалкоўнік Іван Мядзведзеў, адзін злачынца паходзіць з Нальчыка (Паўночны Каўказ), а другі — з Курганскай вобласці (Расія). Аднак канчатковай гэтую інфармацыю назваць нельга, бо ў бандытаў знойдзена некалькі пашпартоў на розныя прозвішчы і дакладна высветліць, хто яны, зможа толькі следства.

Сярод версій, якія называюць сёння, найбольш верагоднай міліцыі прадстаўляецца тое, што гэта былі звычайныя бандыты-гастралёры, якія зараз тысячамі шчыруюць на прасторах Расіі і без усялякіх праблемаў прыязджаюць у Беларусь, якая не мае кантралюемай мяжы на ўсходзе.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## АФІША

21 сакавіка адбудзецца канцэрт Мінскага аркестра духавых інструментаў "Няміга" пад кіраўніцтвам сусветна вядомага дырыжора Дэвіда Андрэ (ЗША). У праграме — творы Л.Бернстайна (чатыры эпізоды з "Уэстсайдскай гісторыі"), У.Шумэна, В.Пэрсікэці, Уільямса і Мусаргскага (сцэна каранацыі цара Барыса з оперы "Барыс Гадуноў"). Варта адзначыць, што мінскія духавыя аркестры славіліся яшчэ пры царах Мікалаі. "Няміга" годна доўжыць іхнія традыцыі. Канцэрт пачнецца а 19-й гадзіне **ў канцэртнай зале філармоніі**.

Тэатральнай падзеяй тыдня, бадай, можна назваць прэм'еру на **"Вольнай сцэне"**. Тэатр прапануе сцэны рыцарскіх часоў "Закладніца кахання". П'еса С.Кавалёва. Пра сюжэт казаць не буду, адзначу толькі, што аматары сярэдневечнае аўтэнтыкі не расчаруюцца — атмасфера ў тэатры — як за Круглым сталом караля Артура, а касцюмы настолькі праўдзівыя, што акцёр Корпусь (па ўласным прызнанні) "ледзь не затхнуўся ў гэтай скуры". Спектакль можна пабачыць 23 і 24 сакавіка а 19-й гадзіне.

23 сакавіка а 19-й гадзіне можна схадзіць **у залу камернай музыкі філармоніі** і ўпэўніцца, што гітара — інструмент не толькі дэмакратычны, вельмі фальклорны, але і вельмі класічны. Яўген Грыдзюшка, лаўрэат нацыянальнага конкурсу, выканае п'есы Дакена, Баха, Коста, Н.Паганіні ("Рамансь"), Ф.Тарэга ("Венецыянскі карнавал"), Літвіноўскага, П'яцола, Бустрамантэ і Рака ("Спакуса Адраджэння"). 23 сакавіка а 19-й гадзіне, але ўжо ў канцэртнай зале філармоніі, — канцэрт з твораў Моцарта, Кванца і Гендэля. Дырыжыруе Пётр Вандзілоўскі. Гучаць флейты, фартэпіяна і арган, які стварае атмасферу велічы і вечнасці, асабліва ў п'есах Гендэля.

Правесці вольны час нам дапамогуць, як заўсёды, нашыя суседзі з Усходу. 24 сакавіка а 18-й гадзіне **ў Доме афіцэраў** Віталь Саломін (вядомы ў нас больш як д-р Ватсан), Дзмітрый Назараў і Наталія Краснаярская прэзентуюць спектакль "Клетка" паводле п'есы А.Касцінскага.

У гэты ж дзень (24 сакавіка) а 18-й гадзіне **ў канцэртнай зале "Мінск"** сваіх шматлікіх прыхільнікаў чакае гурт "Крэматорый" (Масква). Хлопцы прывязуць праграму са старых хітоў ("Брыдкая Эльза", "Вецер са смецця", "Лепразорый" ды інш.) і новых кампазіцый з альбомаў "Гігантаманія", "Мікранезія" і "Тэкілавыя сны". Неабазнаныя мусяць ведаць, што тэкіла — моцная мексіканская гарэлка. Так што назвы гавораць за тое, што кампазіцыі з новых альбомаў будуць не менш экзатычныя і хваравітыя за старыя рэчы "Крэматорыя". Уваходны квіток на зуброў гадоскага фальклору каштуе ад 70 да 120 тыс. рублёў. Іравацца без квітка, як некалі на Барыса Грабеншчыкова, не рэкамендую — канцэрт ахоўваюць здаравякі з фірмы "Альфа".

15 сакавіка **ў кінатэатрах Мінска** пачаўся пракат фільма "Мак-мільянер". Гэта чарговы прыклад класічнай сямейнай камедыі, якая працягвае традыцыі звышкасавых фільмаў "Адзін дома" і "Адзін дома-2". Аднак у гэтым выпадку сюжэт больш напружаны і закручаны. 11-гадовы хлопчык Прыстан нечакана атрымлівае чэк на мільён долараў, і гэта дае яму магчымасць ажыццявіць ягоныя мары, якіх аказалася нямала. Ён купляе дом, падобны на палац, ставіць там найноўшыя электронныя гульні, што потым становяцца пасткамі для гангстэраў, якія спрабуюць вярнуць свае грошы. Кульмінацыяй фільма з'яўляецца шыкоўная вечарына, арганізаваныя Прыстанам для сваіх сяброў, на якой нечакана зноў з'яўляюцца гангстэры.

**Святлана СОЙКА**

## СПОРТ

# Майк Тайсан вярнуўся

*Героямі мінулага спартовага тыдня сталі два спартсмены: галандзец Пол Хаархус і амерыканец Майк Тайсан*

**БОКС**

☒ Ужо ў трэцім раўндзе бою, які праходзіў у Лас-Вегасе (ЗША), Майк Тайсан прадэманстраваў відавочную перавагу над Фрэнкам Бруна з Вялікабрытаніі. Гэтым самым Тайсан вярнуў сабе тытул чэмпіёна свету па версіі Сусветнага баксёрскага савета пасля пяцігадовага перапынка. Нагадаем, што тры гады Майк правёў у турме за згвалтаванне. Дарэчы, Тайсан адсядзеў толькі палову прызначанага тэрміну і быў выпушчаны за прыкладныя паводзіны пад заклад. Пасьля вызвалення ён ужо правёў тры баі, паслядоўна перамогшы Оліверa Макола, Бастэра Маціса-малодшага і Фрэнка Бруна.

**ТЭНІС**

☒ Галандзец Пол Хаархус здзівіў усіх на турніры ў Індыян-Уэлсе (ЗША) з прызавым фондам больш за 2 мільёны долараў. Ён перамог трох ігракоў сусветнай дзесяткі: восьмага — Томаса Энквіста (Швецыя) — 6:4, 6:2, другога — Пітэра Сампраса (ЗША) — 7:5, 6:7, 6:1 і шостага — Горана Іванішавіча (Харватыя) — 6:2, 7:6. У фінале Хаархус, які займае далёкае 68-е месца ў спісе мацнейшых тэнісістаў, сустрэўся з пятай ракеткай свету Майклам Чангам (ЗША). Перамогу з лікам 5:7, 6:1, 6:1 і чэк на 320.000 долараў атрымаў Майкл Чанг.

☒ У гэтым жа горадзе прайшоў і жаночы турнір, у якім пасля доўгага перапынку гуляла Штэфі Граф (Германія). Граф перамагла, але з цяжкасцямі. Пра гэта гаворыць лік яе апошніх сустрэч: Граф — Дэвенпорт (ЗША) — 6:7, 7:6, 6:4 і Граф — Марцінес — 7:6, 7:6. Бацька і былы мэнэджэр Штэфі Пецер Граф вось ужо больш за паўгода сядзіць за турэмнымі кратамі ў чаканні суда па справе аб няўплаце падаткаў. Сума штрафных і кампенсацыйных выплат перавышае 130 мільёнаў долараў.

**АЎТАСПОРТ**

☒ Аматары "Формулы-1" нарэшце дачакаліся старта чэмпіяната свету. Першы этап, які прайшоў у Мельбурне (Аўстралія), прынёс шмат сюрпрызаў. Галоўны — двухразовы чэмпіён свету Міхаэль Шумахер не закончыў гонку з-за праблемаў з рухавіком свайго баліда. А перамаглі пілоты каманды "Вільямс-Рэно" Дэйман Хіл і дэбютант "Формулы-1" Жак Вільнёў. Трэцім быў партнёр Шумахера па "Фэрары" Эдзі Ірвін.

**БІЯТЛОН**

☒ У аўстрыйскім Хохфільцэне падвялі вынікі барацьбы за Кубак свету біятланістаў. У мужчын на галаву вышэй за іншых быў расіянін Уладзімір Драчоў. Лепшы з беларусаў — Вадзім Сашурын — заняў толькі 14-е месца. У жанчын ганаровы трафей дастаўся францужанцы Эмануэль Кларэ. Святлана Парамыгіна па суме ўсіх стартаў заняла 9-ты радок у табліцы. На апошнім этапе звыклае высокае месца заваявалі мужчыны-эстафетчыкі — на гэты раз яны былі трэцімі.

Галоўнай задачай у наступным сезоне, відаць, будзе "абкатка" і "абстрэл" бліжэйшага рэзерва, каб стварыць хоць нейкую ўнутраную канкурэнцыю. Без гэтага нашы акцыі на сусветнай біятлоннай біржы будуць падаць.

**ЛЫЖНЫ СПОРТ**

☒ Завяршылі сезон і прадстаўнікі лыжных дысцыплін. У мужчынскіх гонках былі два яркія лідэры — нарвежац Б'ёрн Дэлі і казахстанец Уладзімір Смірноў. Маладзейшы Дэлі перамог. Бліскуча правяла першую частку сезона расіянка Алена Вяльбе. У другой палове сезона яна панікла, затое на авансцэну выйшла італьянка Мануэла дзі Чэнта. Да апошняга этапа абедзве захоўвалі шанцы на перамогу. На фінішы лепшай аказалася італьянка.

☒ Да самага фінала захоўвалася інтрыга і ў скачуноў з трампліна. Лідэры — аўстрыец Андрэас Гольдбергер і фін Ары-Пека Нікала — згубілі баявую форму. Апошні этап прынёс поспех паляку Адаму Малішу, а ўладальнікам Кубка свету стаў алімпійскі чэмпіён Гольдбергер.

☒ Толькі двухборцы правялі сезон адносна мірна. Вопытны Кнут Апеланд (Нарвегія) лідзіраваў увесь сезон і заслужана дамогся поспеху.

**КАНЬКАБЕЖНЫ СПОРТ**

☒ У Хамары (Нарвегія) канькабежцы разыгралі званні чэмпіёнаў свету на асобных дыстанцыях. У бегу на 500 м перамаглі Святлана Журава (Расія) і Хіраякі Шыміцу (Японія). Двайнога поспеху дамаглася галандка Ганна-Марыя Томас, якая выйграла дыстанцыі 1.000 і 1.500 м. У стаерскім бегу лепшымі былі немкі. 3.000 метраў хутчэй за іншых прабегла пяціразовая чэмпіёнка свету Гундэ Німан, а 5000 м — Клаўдзія Пехштайн. 1000 метраў у мужчын выйграў Сяргей Кляўчэня (Расія), 5.000 м — Ідс Постма, а 10.000 — Айке Ромэ (абодва — Галандыя).

**ХРОНІКА**

☒ Чэмпіён свету у вагавай катэгорыі да 91 кг расійскі цяжкаатлет Аляксей Пятроў знаходзіцца пад пагрозай пажыццёвай дыскваліфікацыі. У аналізе на допінг, узятым у яго на чэмпіянаце свету ў Кітаі, выявілі анабалічныя стэроіды. Калі проба "В" пацвердзіць першы аналіз, каманда Расіі пазбавіцца аднаго з прэтэндэнтаў на алімпійскае золата.

☒ Ахвярай СНІДу стаў вядомы ў недалёкім прошлым румынскі ватэрпаліст Флорын Слэвей. Ён больш за 200 разоў абараняў вароты зборнай Румыніі ў міжнародных спаборніцтвах, выступаў за зборную свету. Апошнія 6 гадоў Слэвей працаваў трэнерам. Пра сваю хваробу ён даведаўся два гады таму. А нядаўна сябры праводзілі яго ў апошні шлях.

☒ Каманда універсітэта "Джордж Вашынгтон" вылецела пасля першага ж кола "Сакавіцкага шаленства", прайграўшы суперпікам 79:81. Нагадаем, што за "Джордж Вашынгтон" выступаюць беларусы Аляксандр Куль, Ягор Мешчаракоў, Андрэй Крыванос і Андрэй Свірыдаў.

**Сямён ПЛОЦ**

## МНЕНИЕ РЫБАКА

# Почему в наших реках мало рыбы

Спросите у любого рыбака: "Как рыбалка?" — и услышите: "В этой речке совсем мало рыбы! А вот раньше было..." Действительно, не только мало рыбы. Есть речушки уже почти мертвые: плывешь по ней с маской 100, 200, 500 метров и удивляешься, так как не только рыбок, а, самое главное, мальков нет, стайки которых обычно радовали глаз. А раз нет потомства, то откуда появится крупная рыба?

Если услышите, что виноваты рыбаки, — не верьте: количество рыбаков в последнее время не увеличилось, а количество сетей, крыг и других старорежимных браконьерских изделий даже уменьшилось. Просто изменилась техника и психология людей: современная техника и беспредельная жадность некоторых "любителей природы" позволяют выгребать рыбу мешками. Причем пусть бы гребли эти "рыбаки" просто рыбу; но попутно они, и это главное, уничтожают потомство (то есть, будущее этой речушки), и она становится почти мертвой. Имя этим губителям нашей природы — электроудочки.

Если в мае вы поймаете щуку, полную икры, то знайте — в ваших местах весной "ходили" электроудочники. Поэтому рыба, даже спасшаяся от их сачка, становится ненормальной — после электрошока она не может отнереститься, так и носит икру с собой и оставляет реку без восстановления. То же происходит и с плотвой, красноперкой и другими крупными рыбами, которых вы можете поймать летом и осенью с икрой, т.е. неотнерестившимися.

Нерест — это чудо природы. И если вы хотите восстановить свою реку, то берегите ее от электроудочников. Их сейчас развелось видимо-невидимо — у каждого авто, способное донести бригаду браконьеров за короткое время в любую точку Беларуси. Кроме того, электроудочка на базаре стоит 80-100 долларов США, так что экипироваться любой "специалист" может очень быстро и капитально.

Если вы решили бороться за свою природу — это очень сложно сделать. Во-первых, основная масса браконьеров промышляет ночью: лодка, аккумулятор, подсвет хорошей подводной фарой и... багажник машины заполнен рыбой. Дороги у нас хорошие: подъехал в одном месте, спустил лодку, в другом месте подобрал "рыбаков" — и вся процедура. Есть, конечно, и дневные браконьеры, но это в основном местные "хозяева" земли —руководители разных рангов и их родственники, друзья. Во-вторых, бороться с этими браконьерами опасно, так как примерно каждый третий из них вооружен: часть из них — сотрудники милиции и других силовых ведомств (официально имеющие оружие), другая часть — бизнесмены и их телохранители (неофициально имеющие оружие), третьи — просто уголовные элементы, также не стесняющиеся в применении любых средств для "самообороны". Так что без милиции их непросто взять, тем более, что наши законы неизвестно кого лучше защищают.

Приближается весна. Как только сойдет лед, целая армия браконьеров-электроудочников снова ринется на уничтожение природы. Жадность у них беспредельна: не дадут они рыбам отнереститься, и опять будут реки полумертвые.

**Валерий ЕРМОЛЕНКО**
**инженер (г.Минск)**



Падпісны індэкс 63887 E-mail: edit@svaboda.minsk.by © СВАБОДА Спасылка на газету СВАБОДА абавязковая Наклад 45.000 (1-шы завод — 40.000)
Нумар падпісаны ў друк 18.03.96 (15.00) Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) ЛВ № 10 Заказ 227